№ 203 (555)

Чацвер, 12 лістапада 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 4000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

# Народная Воля












**Памяркуем ?**

## На 16,7 працэнта скараціўся аб'ём экспарту ў Расію прадукцыі беларускага аграпрамысловага комплексу

Па інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, аб'ём экспарту прадукцыі беларускага аграпрамысловага комплексу ў Расію за 9 месяцаў гэтага года скараціўся на 16,7 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года і склаў 192,8 мільёна долараў ЗША.

Нестабільнасць курсаў беларускага і расійскага рубля прывялі да павелічэння аб'ёму бартэрных аперацый. Іх доля ў экспарце беларускай прадукцыі ў студзені—верасні 1998 года склала 48,5 працэнта супраць 48,3 працэнта ў студзені—жніўні. Найбольшую ўдзельную вагу ў агульным аб'ёме бартэрных аперацый складаюць малакапрадукты (24,6 працэнта), мяса і мясапрадукты (15,3 працэнта), яйкі (7,6 працэнта), кандытарскія вырабы (6,5 працэнта).

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## З назначэннем!

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка разгледзеў кадравыя пытанні.

Як паведамілі з прэс-службы Прэзідэнта, указамі кіраўніка дзяржавы назначаны:

Папкоў Аляксандр Андрэевіч — намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь;

Рахманько Віктар Рыгоравіч — начальнікам Беларускай чыгункі.

***

Рахманько Віктар Рыгоравіч нарадзіўся ў 1953 годзе, беларус. У 1980 годзе закончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Працоўную дзейнасць пачаў з пасады памочніка машыніста цеплавоза, затым працаваў дзяжурным па станцыі Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі. Працаваў паязным дыспетчарам, галоўным інжынерам, а затым начальнікам станцыі Баранавічы — Цэнтральныя. З 1994 г. — начальнік Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі.

З'яўляецца заслужаным работнікам транспарту Рэспублікі Беларусь. Са студзеня 1997 г. — член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

* * *

Прэзідэнт таксама даў згоду на назначэнне:

Дражына Уладзіміра Несцеравіча — намеснікам старшыні Мінскага аблвыканкама;

Крупяца Леаніда Фёдаравіча — старшынёй Нясвіжскага райвыканкама;

Юркевіча Аляксандра Іванавіча — старшынёй Пружанскага райвыканкама.

**Эксперымент**

## Беларускі аўтобус з "гармонікам"

Першы сабраны на Мінскім аўтазаводзе МАЗ-105 выходзіць працаваць на сталічныя пасажырскія маршруты. Дагавор аб эксперыментальнай эксплуатацыі беларускага аўтобуса з "гармонікам" ужо заключаны паміж вытворцам і гарадскім прадпрыемствам "Мінскпасажыраўтатранс".

Як паведамілі спецыялісты прадпрыемства, на гэтую мадэль ускладаюцца асаблівыя надзеі. Менавіта такія аўтобусы транспартнікі хацелі б мець у неабходнай колькасці ўжо ў самы бліжэйшы час. І ўсім вельмі хочацца верыць, што МАЗ-105 апраўдае спадзяванні. Дарэчы, такая ўпэўненасць грунтуецца перш за ўсё на тым, што яго папярэднік — мадэль МАЗ-104 — вельмі добра зарэкамендаваў сябе. Што датычыць зборшчыкаў, то яны гатовы ў недалёкай будучыні разгарнуць серыйную вытворчасць "гармонікаў" з тэмпам выпуску аднаго аўтобуса ў суткі.

**Таццяна СМІРНОВА.**

**Сувязі**

## У "Стамбул" — на вячэру і абед

Усё больш устойлівыя дзяржаўныя сувязі Беларусі і Турцыі дзелавыя людзі з абедзвюх краін паспяхова падмацоўваюць сувязямі эканамічнымі. Яркі прыклад таго — адкрыццё ў Мінску, у кінатэатры "Мір", першага кафэ-рэстарана турэцкай кухні.

Адміністрацыя Партызанскага раёна Мінска пайшла насустрач жаданню турэцкага прадпрымальніка Зейнала Абідзіна Сёнмюша ўкласці ўласныя сродкі ў арганізацыю прадпрыемства харчавання ў беларускай сталіцы. Затраціўшы немалыя грошы на рамонт памяшкання і закупку абсталявання, замежны гаспадар "Стамбула" (так назвалі новы рэстаран) не мае намеру адразу ж атрымаць вялікі прыбытак. Паводле яго слоў, на абед і вячэру прыйсці могуць тыя, у каго даходы сярэднія і нават ніжэйшыя за сярэднія, карацей кажучы, у каго хапае грошай на білет у кіно. Прадукты на кухні рэстарана маюць намер выкарыстоўваць толькі беларускія, за выключэннем хіба што спецый. І каля дваццаці рабочых месц стварае новае прадпрыемства. Нават адзін з повараў — беларус, і яму яшчэ трэба будзе павучыцца сакрэтам нацыянальнай кухні ў свайго турэцкага калегі.

"Стамбул" ужо прымае першых наведвальнікаў. На яго ўрачыстым адкрыцці аташэ Пасольства Рэспублікі Турцыя ў Беларусі пан Бюлент Гюрс адзначыў, што ў канкрэтным супрацоўніцтве нашых краін упор робіцца на тое, што збліжае турэцкі і беларускі народы.

**БелТА.**

**Крымінал**

## Таксіста — забілі, машыну — укралі

У дзень святкавання чарговай гадавіны Кастрычніка бяда прыйшла ў адну з брэсцкіх сем'яў, галава якой займаўся прыватным возніцтвам. Выпадковы прахожы знайшоў яго мёртвым у лясным масіве каля пасёлка Фруктовы Кобрынскага раёна.

Як паведаміў кіраўнік прэс-службы Брэсцкага УУС Віктар Васілеўскі, дваццаціпяцігадовы прыватны таксіст быў забіты выстралам у галаву. Пакуль толькі вядома, што яшчэ 3 лістапада ён пасадзіў у свой аўтамабіль на Брэсцкім аўтавакзале двух пасажыраў і павёз іх у невядомым напрамку. Пасля гэтага яго ніхто не бачыў. Аб тым, што прапаў муж, жонка паведаміла ў органы міліцыі толькі 6 лістапада. Дарэчы, яго аўтамабіль "Аўдзі-100" з дзяржаўнымі нумарамі "39-60 ИИ" пакуль што не знойдзены. Па факце гэтага забойства ўзбуджана крымінальная справа, і цяпер аператыўнікі, звярнуўшыся за дапамогай да насельніцтва, вядуць актыўны пошук злачынцаў і ўкрадзенага аўтамабіля.

**Іван КУКСА.**

**Трагедыя**

## "Хонда" не ўстаяла перад "Волгай"

Адразу чацвёра расіян знайшлі сваю смерць на аўтастрадзе ў Дубровенскім раёне. Не ўлічыў уладальнік іншамаркі "Хонда" характар мокрай дарогі, калі ехаў з жонкай і двума маленькімі сынамі. Яго занесла на сустрэчную паласу, па якой ехалі насустрач на "Волзе" муж і жонка — расійскія пенсіянеры. Ад абодвух машын засталіся толькі кучы металу, а ў жывых пашчасціла застацца 7-гадоваму сыну віноўніка аварыі і бабулі з іншай машыны. Іх прыйшлося адправіць у бальніцу з цяжкімі траўмамі.

Тым часам абстаноўка на аўтадарогах Віцебшчыны застаецца надзвычай трывожнай. Практычна не бывае таго дня, каб не абышлося без смяротнага выпадку. Яшчэ больш небяспечна стала на дарогах зараз, калі пачаўся зімовы перыяд эксплуатацыі тэхнікі.

**Уладзімір ШЫТАЎ.**

# Усё паўтараецца...

*Гэты здымак быў зроблены 7 жніўня 1990 года. Памятаеце, якія чэргі паўзлі тады па нашых вуліцах, у магазінах, гастраномах, універсамах, універмагах і вакол іх? Ветэран вайны, які прайшоў у свой час праз свінцовую віхуру, радаваўся, як дзіця, некальким пачкам здабытых "з бою" цыгарэт...*

*А вось карціна сённяшніх дзён. Мінула восем год, і, падобна, даўжэзныя чэргі — адна з прыкмет савецкага ладу жыцця на працягу дзесяцігоддзяў — зноў вяртаюцца да нас. І не дзіўна: пусцеюць прылаўкі магазінаў, знікаюць харчовыя тавары, а сем'і карміць трэба.*

*У адным з мінскіх магазінаў "выкінулі" яйкі — адразу ўзнікла чарга, бы калісьці ў Маўзалей Леніна. Як тут не пазайздросціць шчаслівай пакупніцы, што выходзіць з каштоўным таварам? Астатнім жа яшчэ стаяць і стаяць... "Рынкавы сацыялізм", які будуе прэзідэнт А. Лукашэнка, — не жартачкі!*

**Ну и ну!**

## Будет ли на Беларуси "дерьмовое дело"?

Первую годовщину своей деятельности 10 ноября 1998 года Хартия'97 отметила пикетом в Минске на площади Якуба Коласа. Активисты Хартии вышли с двумя лозунгами: "Лукашенко — в отставку" и "Диктатура — говно!".

Если к первому плакату милиция отнеслась спокойно, то второй у стражей порядка вызвал беспокойство. Активистам Хартии было предложено свернуть плакат, поскольку, по их мнению, одно слово на нем является оскорбительным... для граждан. На вопрос, какое из двух слов оскорбительно, пикетчики ответа не получили. Так и не поняли хартисты, что от них требовали. Неужели написать, что диктатура — хорошо?

Старший милицейский начальник сказал, что все державшие этот плакат будут привлечены к суду. В ответ член оргкомитета Хартии'97 Николай Халезин заметил, что тогда дело это войдет в историю Беларуси как "дерьмовое дело".

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**



## Дзяржавы Садружнасці вырашаюць праблемы неплацяжоў

Пры ўдзеле старшыні Дзярждумы Расійскай Федэрацыі Геннадзя Селязнёва сёння і заўтра ў Мінску пройдзе навукова-практычная канферэнцыя "Аб вырашэнні праблемы неплацяжоў і выкананні маёмасных абавязацельстваў у гадлёва-эканамічных адносінах краін СНД". Яе арганізатарамі выступілі канцэрн "Белрэсурсы" і каардынацыйны савет некамерцыйнага партнёрства міжрэгіянальнага агенцтва інтэграцыі і развіцця Расійскай Федэрацыі. Для ўдзелу ў рабоце канферэнцыі запрошаны прадстаўнікі парламентаў, урадаў, дзелавых колаў банкаўскай сферы, страхавых, лізінгавых кампаній дзяржаў — удзельніц СНД, кіраўнікі васьмі міжрэгіянальных асацыяцый Расійскай Федэрацыі.

У такім прадстаўнічым складзе ўдзельнікаў будуць выпрацаваны механізмы прававога забеспячэння і стварэння інстытутаў, здольных вырашаць праблему неплацяжоў паміж суб'ектамі гаспадарчага права. А канчатковым вынікам канферэнцыі будзе стварэнне эфектыўных эканамічных адносін паміж краінамі СНД.

**БелТА.**

**Працягваецца падпіска на першую палову 1999 года.**

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

**Независимая экспертиза**

*Ярослав РОМАНЧУК*

## Выживем?

В конце октября Министерство труда приняло постановление №87 "О минимальных потребительских бюджетах для различных социально-демографических групп населения". Данный документ утверждает среднедушевые минимальные потребительские бюджеты на месяц. По сравнению с ценами июня бюджеты различных социально-демографических групп выросли якобы на 19,4—31,5 процента. Это, конечно, случилось на бумаге. События же реальной жизни печально известны каждому. Белорусский рубль потерял почти 500 процентов своей стоимости, цены с начала года выросли более чем на 200 процентов. Правительство повысило минимальную зарплату на 40 процентов. В результате граждане вместо обещанного повышения дохода вынуждены отминусовать от него еще 15 процентов. А на бумаге — рост реальных доходов более чем на 1/3. Получается как в том анекдоте: "Опять ты будешь верить своим бесстыжим глазам, а не любимой жене". В качестве неверной жены выступает правительство.

Согласно документу Минтруда, для семьи из четырех человек установлен бюджет в три миллиона 775 тысяч 81 рубль. В принципе, данная цифра не имела бы никакого значения, если бы ее не учитывали в расчете минимальной зарплаты. От нее "пляшут" многие социальные показатели. Если правительство решило, что эта норма определяет размер зарплаты миллионов граждан Беларуси, то ее формальное увеличение означает улучшение уровня жизни. Если использовать официальную раскладку основных статей, то на сегодняшний день среднедушевой месячный бюджет составляет почти 24 доллара США. На питание идет 14 долларов, на одежду, белье, обувь — 4,4, на предметы культбыта и хозназначения — 1,7, предметы санитарии, гигиены, лекарства — 0,9, жилье и коммунальные услуги поглощают один доллар, бытовые услуги и транспорт — 1,1. Все эти суммы — на 4 человека. **Покажите мне среднестатистического белоруса, который может пропитаться на 3,5 доллара в месяц. В день он должен кормиться на 0,12 доллара, что по рыночному курсу составляет 19.200 белорусских рублей.**

По данным Минтруда, бюджет студентов, пенсионеров, детей, молодой семьи с двумя детьми еще меньше. Если бы не было серой экономики и натурального обмена между городом и деревней, то мы могли бы сказать: нормы питания белорусов в конце 90-х опасно приблизились к продовольственным нормам осадного Ленинграда. Но это еще не самое печальное и лицемерное в официальной статистике. Прожиточный минимум в сентябре составил два миллиона 265 тысяч 69 белорусских рублей, или 14 долларов. Если принять официальную раскладку по статьям, то человек в Беларуси может выжить (только питание) на 2 доллара в месяц или на 7 центов в день, что составляет 11.200 белорусских рублей. Данной суммы не хватит даже на три стакана чая без сахара по ценам самой дешевой столовки. Экономисты, ответственные за калькуляцию потребительской корзины, очевидно, берут цены годовой давности и сегодняшнюю номинальную зарплату. Для них существуют строгие методики расчета. Неважно, что они сильно оторваны от реальной жизни. Каждая экономическая модель или концепция проходит испытание временем. Предлагаю в качестве проекта выделить три группы ответственных работников министерств и ведомств. Первая группа в течение полугода будет получать только прожиточный минимум, вторая — минимальный потребительский бюджет, третья — среднестатистическую зарплату. Участникам эксперимента нужно пообещать большие премиальные, если они не будут использовать дополнительных источников дохода. Исходя из сложившейся экономической ситуации, проект немного негуманный, но это, пожалуй, единственный способ заставить чиновников задуматься о моральности и рациональности проводимой ими же политики.

На фоне данных страшных показателей "радует" размер средней номинальной зарплаты, которая на 23,5% процента выше минимального потребительского бюджета и составила в сентябре четыре миллиона 663 тысячи 600 рублей, или 29 долларов. С июля имеет место устойчивая тенденция снижения реальной заработной платы. В сельском хозяйстве (17,5 доллара), здравоохранении, образовании, физкультуре и спорте, социальном обеспечении, культуре номинальная зарплата ниже минимального потребительского бюджета. Государство выступает монопольным работодателем в этих социально чувствительных сферах. Оно несет ответственность за политику оплаты труда. Недавно смахнули парафин с социализированного лозунга Кеннеди "Не спрашивай, что дала тебе страна, спроси себя, что ты дал стране". С таким уровнем оплаты труда немудрено, что учителя падают в голодные обмороки и донашивают последние нарядные одежды, колхозники безбожно воруют все, что плохо лежит, а медсестры и врачи без дополнительной платы даже перевязку не сделают. Недавно одна моя знакомая рассказывала ужасающий случай, когда в одной из больниц Могилевской области пенсионерку заставили покупать гипс. Ее подруге, тоже пенсионерке, пришлось ехать за гипсом в Минск.

Я противник иждивенчества и получения от государства бесплатных подачек, но требовать отдачи от граждан надо лишь тогда и лишь после того, как государство отдало экономическую власть в руки граждан, предоставило возможность им самим распоряжаться ресурсами и продавать их по свободным ценам без посредничества чиновника. Забота государства о пенсионерах, а также других социальных категориях, перед которыми государство имеет обязательства, является составной частью частного свободный рынка. Здесь нет никакого противоречия. У нас же получается, что государство действует, как прапорщик в Советской армии, отдавая приказы солдатам: "Побелите казарму, отремонтируйте машины, приготовьте обед. Меня не интересует, как вы будете это делать!". Ясно, что под страхом оказаться на "губе" солдаты начнут воровать друг у друга или у гражданских, а прапорщик со спокойной душой получит возможность "загонять налево" то, что, в принципе, положено солдатам. В качестве компенсации прапорщик закрывает глаза и на дедовщину, и на самоволки, и на моральное разложение коллектива. К сожалению, то же самое происходит в обществе. Право человека на жизнь — это пустая фраза без права человека на собственность. Право частной собственности — это пустая фраза, если человек не может свободно распоряжаться ею исключительно по своему усмотрению. Как простому белорусу при 80-процентой госсобственности обеспечивать себе право на жизнь и еще спрашивать: "А что я могу сделать для своей страны?". Если вы только принимаете нормативный подход к экономике, то непременно получится так, что требовать от вас во имя государства будут гораздо больше, чем вам позволят требовать от него.

Экономическая наука не должна оперировать административными нормами потребления, сбережения и инвестирования, потому что их нет в реальной жизни. Один римский император хотел, чтобы у человечества была одна шея — легче будет петлю набросить. Веками люди смеялись с него. Но, к сожалению, чиновники многих стран смеются последними. Они научили людей объединяться, жить по нормам. Они нашли волшебное слово — коллективизм. Как писала философ рыночной экономики Айн Рэнд: "Они бросили монету. Орёл — коллективизм. Решка — коллективизм. Отдай душу обществу или отдай её своему лидеру. Кому угодно, только отдай".

Не поддавайтесь магии больших чисел и непонятных простому человеку макроэкономических показателей. Приземляйте экономику до уровня вашей конкретной жизни и на этом основании делайте вывод, стало ли вам лучше жить. Преломление реальности через собственный кошелек — это лучший способ проверки любой экономической политики. А прожиточные минимумы, минимальные потребительские бюджеты, наборы продуктов для выживания давно не являются факторами экономики, это, скорее, факторы политики и психологии.

**Надвор'е**

13 і 14 лістапада на тэрыторыі рэспублікі захаваецца воблачнае надвор'е, невялікі снег. Вецер усходні, 5—10 м/с. Тэмпература паветра ўначы -4...-9, пры праясненнях да -14; удзень — 0...-5.

**Прабачце, калі ласка**

## Прамаргалі...

Сапраўды, мы прамаргалі — у нумары за 10 лістапада надрукавалі беларускамоўную заметку "Названы пераможцы конкурсу маладых выканаўцаў міжнароднага фестывалю "Залаты шлягер" без "ў" нескладовага ў загалоўку і тэксце.

Адбылося гэта, вядома, з-за неўважлівасці супрацоўнікаў адпаведных рэдакцыйных служб, якія, гаворачы на тэхнічнай мове, не "праканверціравалі" тэкст. Вінаватыя панеслі сур'ёзнае пакаранне.

Прыносім чытачам прабачэнне.

**Рэдакцыя.**

Памяць

# Ён – жывы, бо жывыя яго словы пра лёс Беларусі

*Сёння спаўняецца роўна два гады, як з нашых шэрагаў быў трагічна вырваны таленавіты журналіст, палітолаг, Грамадзянін —* **Анатоль МАЙСЕНЯ**. *На самым узлёце свайго творчага жыцця ён не прарваўся праз імглу, якая апусцілася на шляхі нашай Беларусі. Але пакінуў нас Анатоль толькі фізічна, бо, як напісана на яго помніку, "Сіла духу не падуладна смерці".*

*З намі засталіся тры яго кнігі, засталіся дзесяткі яго артыкулаў, засталася добрая памяць пра добрага і мужнага чалавека. Застаўся той высокі ўзровень, які усталяваў менавіта ён, у беларускай паліталогіі і журналістыцы. Ён быў і ўжо назаўсёды застанецца ў нашай гісторыі.*

*Засталася дачка Настачка. У гэтым годзе яна ўпершыню пераступіла школьны парог. Яна хацела б пабудаваць вялікую-вялікую лесвіцу — да неба, каб спусціўся любімы татачка. Ёй яшчэ цяжка зразумець, што па самым найвялікшым рахунку Анатоль — з намі. Ён — жывы, бо жывыя яго справы, якія працягваюць сваю стваральную працу на карысць Радзіме.*

*У мінулым годзе пачала сваё існаванне журналісцкая прэмія імя А.Майсені. І за першымі яе лаўрэатамі абавязкова з'явяцца новыя — зноў будуць вызначаны лепшыя творы па выніках года. Сёння ж мы зноў даём слова самому Анатолю Майсені. З яго вялікай спадчыны на гэты раз мы вырашылі надрукаваць фрагменты некаторых артыкулаў, якія паказваюць яго бачанне стратэгічна важных праблем, што датычаць* ***нацыянальных інтарэсаў Беларусі****, шчаслівай будучыні нашай дзяржавы.*



*Анатоль Майсеня на мітынгу.*

### Пришло время нового выбора для Беларуси

...Крушение СНГ неминуемо... С разрушением центра, единой государственности, государственной коммунистической и советской идеологии, с приданием земле единой советской культуры Содружество лишилось своей основы. Каждый оказался при своем национальном интересе, при своей национальной культуре, при своих религиозных традициях. Абсолютизация национального фактора делала распад общего геополитического пространства лишь вопросом времени и инерции... Тем более законен вопрос: "Почему президент России с упрямой настойчивостью продолжает утверждать, что верит в СНГ?" Зачем СНГ нужно России даже тогда, когда дрейф Содружества в никуда и так затянулся? Может, в нем говорит честолюбие политика, запрещающего признать собственные ошибки?

Расчет, несомненно, в другом — пока существует СНГ, у России есть важные рычаги для сохранения своего военного, политического и экономического присутствия на всем протяжении бывшего Союза...

Думается, пришло время нового выбора для Беларуси.

*(Из статьи "Нелегкая у Вискулей судьба", 9.04.92г.)*

### Дружба дружбой, а национальные интересы — врозь

...У Беларуси нет иного выхода, как решительная структурная перестройка экономики и технологический прорыв. Только так мы можем вырваться из экономического "гулага" сверхинтеграции, покончить с моноориентацией на Россию и развернуть свою экономику в сторону Центральной и Западной Европы. Европейский вектор силы в политике и экономике Беларуси — это тоже объективная необходимость, которую, кстати, Россия должна понимать и способствовать ее претворению. Она должна отдавать себе отчет в том, что если Беларуси не удастся создать саморегулирующуюся экономическую систему в рамках независимого государства, то это обернется дополнительным материальным и финансовым бременем для самой России. В ее же интересах всячески поддерживать у нас реформы и иметь сильного экономического и политического союзника на западных границах.

Но этого понимания недостает, как показывает анализ, не только России, но, увы, и нашему правительству. Иначе бы не появилась в тексте коммюнике о встрече 20 июля с.г. в Москве правительственной делегации Российской Федерации и Республики Беларусь строка об **"усилении интеграции экономики"**. Куда уж больше интегрироваться?!

Беларуси, со своей стороны, нужно как можно скорее освободиться от мистических сторон таких понятий, как "славянское братство", "дружба с Россией навеки".

...Сам процесс усиления принципа экономической целесообразности в межгосударственных отношениях, которые держались в прошлом на идеологических, — закономерность. Впору усвоить, что дружба дружбой, а национальные интересы — врозь. И что различие (в смысле нетождественности) наших национальных интересов проистекает не из плохого или хорошего отношения к России и к русскому народу. Оно по своей природе объективно и определяется такими объективными факторами, как геополитическое положение, экономический потенциал, национальная специфика, национальная история и т. д. Вот почему резкая реакция руководства России на празднование в Минске годовщины битвы под Оршей и высказанные в связи с этим (на официальном уровне) обиды и упреки не могут иметь под собой убедительных объяснений. У каждого из наших народов своя история, тем более ошибочно видеть в этом праздновании, как и в самом историческом событии, антирусскую и антироссийскую подоплеку.

Беларусь должна последовать примеру России и отныне проверять свою политику на оселке экономической целесообразности.

То, что республика получила в свой валютный бюджет в текущем году 80 тысяч DM в виде транзитных платежей, говорит о крайней запущенности этого дела. Нам лень наклониться и подобрать с земли валюту, которая рассыпана перед самым носом. Мы все еще стесняемся извлекать выгоду из исключительного географического положения Беларуси. Через наше воздушное пространство пролегают оживленные пассажирские и грузовые маршруты, по которым ежедневно следуют в Россию и обратно десятки самолетов. Безопасность их полетов над Беларусью обеспечивают белорусские авиадиспетчеры. Сколько составили транзитные платежи в этой сфере?! Официальное умолчание...

...Принцип экономической целесообразности, включая плату за военные базы, аэродромы, за полеты военных самолетов и т.д., неизбежно проявит себя и здесь. В изменившихся обстоятельствах есть также смысл еще раз вернуться к отдельным межправительственным соглашениям — насколько они отвечают интересам Беларуси сегодня?

...Политикам, которые выступают от имени Беларуси и представляют Беларусь, пора бы понять, что время, когда отношения с Россией держались на личных отношениях лидеров, на теплых, дружеских встречах с обязательным славянским элементом застолья, безвозвратно ушло. Теперь этот фактор при определенных обстоятельствах может работать не "за", а "против". Межгосударственные отношения, включая переменную величину субъективного фактора, все же должны складываться из объективных посылок.

Пожалуй, самое прискорбное здесь (это, конечно, мое субъективное мнение) то, что, не имея концепций и системных подходов к белорусско-российским отношениям, парламент и правительство Беларуси и не хотят их иметь. Сила инерции губернского мышления настолько велика, а бюрократические фильтры настолько неразборчивы, что преодолеть их стоит титанических усилий.

*(Из статьи "Око за око, зуб за зуб?", 28.10. 92г.)*

### Беларусь — мост между Востоком и Западом

...Геополитическое положение Беларуси создает для нее уникальные предпосылки для активных действий одновременно на двух направлениях — поддержание высокого уровня кооперации и сотрудничества во всех сферах с Россией, другими государствами — членами СНГ и динамическое сближение с Западом, интеграция в европейское экономическое и военно-политическое пространство. И здесь роль Беларуси как моста между Востоком и Западом, представляется, есть больше, чем метаморфоза.

*(Из статьи "Ошибка ценою будущего", 8.04.93г.)*

### Путь один — экономический союз с сохранением политического суверенитета

...Последним клапаном для номенклатуры является политическое объединение с Россией или, если строже, — политическое присоединение к России. И тогда — с рук долой ответственность за положение дел и судьбу Беларуси, пусть у Кремля голова болит... Для Беларуси это было бы подписанием акта о безоговорочной капитуляции суверенитета и независимости, актом национального унижения.

Беларусь, заключив экономический союз с Россией, но сохраняя при этом политический суверенитет, имеет гораздо больше шансов на успех обновления реформ, чем при "воссоединении" с Россией, раздираемой политическими распрями и противоречиями. Единственное условие — национальная программа государственного и экономического строительства и политическая воля руководства республики.

*(Из статьи "Воспоминания о будущем?", 19.02.94г.)*

### Но все через призму национальных интересов

Любая форма политической интеграции с Россией на этом этапе означает смерть суверенитета и фактическое инкорпорирование Беларуси в Россию.

...Только люди, жаждущие политического самоубийства для Беларуси, могут ратовать за конфронтацию с Россией или даже за ревизию наших двухсторонних отношений в пользу третьих стран. России объективно выгодно иметь в качестве своего союзника независимую Беларусь, что дает ей несравненно больше возможностей для маневра на международной арене. Оптимальной, по моему убеждению, моделью союзничества может быть стратегическое партнерство, основанное на взаимной выгоде и равноправии. А конкретными формами стратегического партнерства могли бы быть интенсивная экономическая интеграция, широкие политические контакты и консультации, координация внешнеполитических усилий, военно-политическое сотрудничество. Но все через призму национальных интересов России и Беларуси, которые далеко не всегда совпадают.

*(Из статьи "Нас всех можно назвать могильщиками своей собственной судьбы", 24.10.95г.)*

### Достойны ли мы, белорусы, дарованного нам историей суверенитета?

...**Декларированный суверенитет** не стал **реальным суверенитетом**, потому что, заполучив его, наши лидеры так и не смогли решить, с какой стороны к нему подойти; **объявленная** президентом Лукашенко **интеграция** не станет **реальным процессом** до тех пор, пока президент не определится сам и не скажет народу, какой конкретный смысл он вкладывает в это понятие, и какие выгоды ищет для Беларуси. Есть **интеграция** и интеграция. Увы, на сегодняшний день интеграция в президентском исполнении представляет собой причудливую смесь из неуемных самовластных амбиций, иждивенческой философии и зова славянских предков.

С настоящей интеграцией, к примеру, по образу и подобию Европы (на европейский опыт особенно любит ссылаться президент Беларуси. — **А.М.**), где все участники объединительного процесса абсолютно равноправны, интеграция в нашем случае имеет мало общего. В реальности эта интеграция равносильна безоговорочной капитуляции во имя дружбы и братства с Россией. "Путь независимости и единения", как экстравагантно и столь же непонятно, по-талмудистски, окрестили интеграционную инициативу верные президенту газеты, ведет Беларусь в никуда. Это путь не к равноправному объединению с Россией, а к добровольному присоединению и растворению Беларуси в бескрайних российских просторах.

За спиной у народа происходит откровенный торг: в обмен на передачу под контроль российских компаний части экономического потенциала Беларуси пытаются выторговать у Кремля и Федерального собрания гарантии поддержки нынешнего политического режима.





*Пасля першага ў сваім жыцці школьнага ўрока — да любімага таты.*

И здесь мы подошли к коренному вопросу современной истории Беларуси: "Способны ли мы, белорусы, сами решать свою судьбу?", а значит: "Существует ли белорусская нация, наделенная самосознанием и способностью к самоорганизации в рамках национального государства?" И дальше: "Достойны ли мы, белорусы, дарованного нам историей суверенитета?"

В истории независимой Беларуси не найти однозначного ответа на эти проклятые вопросы. Если абстрагироваться от Александра Лукашенко как личности и от всех противоречивых личностных наслоений его президентства, то получим, что его приход к власти в Беларуси и последующая политика были подготовлены всем развитием Беларуси с момента принятия Декларации о суверенитете. Нынешнего президента Беларуси создала сама эпоха, он вырос из толщи массовых разочарований жизнью в постсоветскую эпоху — "при Кебиче и Шушкевиче". Избрание Лукашенко было реакцией народа на неспособность предыдущих лидеров дать внятный ответ : **"Куда мы идем?"** и **"Какую жизнь строит Беларусь?"** В те годы суверенитет со всем своим потенциалом оказался невостребованным, хотя, по злой иронии, именно его несправедливо сделали виновником всех бед и страданий народа. Традицию игнорирования суверенитета продолжил Александр Лукашенко. Он просто не мог иначе. Лукашенко — народный президент, и, как избравший его в минуту тяжелого надлома народ , он тоже искренне верил и продолжает верить, что корень зла — суверенитет. А не то, как бездарно им распоряжались. Но его и упрекнуть-то особенно не в чем. Политика президента Лукашенко — зеркальное отражение народных настроений. Он мыслит как может. Он делает то, что обещал. Он ищет те пути, которые знает по своей собственной жизни. Отсюда его упование на интеграцию с Россией как на панацею от всех болезней. Но настоящая интеграция никогда не была альтернативой суверенитету, а реальный суверенитет никогда не был помехой интеграции. Интеграция сама по себе есть проявление **зрелого суверенитета**, что и доказывает европейский опыт.

Но это уже, видно, не задача президента Лукашенко. Это задача тех, кто придет после него, и кто сможет убедить народ, что быть независимым государством — не просто почетно, но и **выгодно**.

*(Из статьи "Аминь суверенитету?", 7.04.96г.)*

Мнение

# Позиция "Позиции"

Странная передача, выходящая по понедельникам, существует на белорусском радио. Это — "Позиция". Ее ведущий Евгений Богодяж приглашает для беседы политологов, экономистов, ученых, причем исключительно таких, в словах которых так и сквозит ностальгия по прошлому или у которых с логикой не все в порядке. В общем, у всех одно-единственное мнение, никакого разномыслия.

В одной из передач какой-то политолог верно отметил основные признаки тоталитаризма: господство государства над всеми сторонами жизни общества, насилие, уничтожение демократических прав и свобод личности. Однако тут же без зазрения совести заявил, что все эти признаки есть в России, а Беларусь, мол, — демократическое государство... Если бы так!

События, происходящие в Беларуси, как раз свидетельствуют о том, что здесь все более явственно проступают черты тоталитарного государства, живущего не по законам и Конституции (хотя бы с изменениями и дополнениями, принятыми на так называемом референдуме 1996 года), а по указам и декретам, цель которых одна: поселять в душах людей страх. Страх потерять работу, страх быть арестованным, если участвовал даже в разрешенном властями митинге, страх перед завтрашним днем, потому что не успела повыситься минимальная зарплата, а цены уже давно опередили это повышение...

Разве не такое господство государства над всеми сторонами жизни общества являет собой проект декрета президента об усилении исполнительской дисциплины, "всенародное" обсуждение которого проходило в прошлом году в стране? Многие жители Беларуси задаются вопросом: зачем этот декрет, если существует Кодекс законов о труде, регламентирующий порядок приема на работу, поощрения и наказания работника, его увольнения и многие другие аспекты трудовых отношений?

Или вот образчик лицемерия тоталитарного режима. На пятую сессию так называемой Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь вынесен вопрос "О проекте Закона Республики Беларусь "О внесении изменений и дополнений в некоторые законодательные акты Республики Беларусь". На первый взгляд ничего удивительного здесь нет: мало ли какие изменения и дополнения, продиктованные жизнью, необходимо внести в законодательные акты? Но главное заключено в скобках к этому вопросу: речь пойдет о защите чести и достоинства **президента**. Оказывается: честь и достоинство президента необходимо защищать законом, а других граждан можно преспокойно оскорблять, называть "вшивыми блохами", "жульем", "алкоголиками и пьяницами" и т.п. (что и делается фактически изо дня в день совершенно безнаказанно). Причем уничижительно отзывается о своем народе не кто иной, как сам народный президент, честь и достоинство которого необходимо будет защищать в законодательном порядке.

В одной из передач Богодяж договорился до того, во что, я думаю, он и сам не верит: будто американское общество не имеет будущего. Выходит, он вполне солидарен с известным трудом, написанным в начале века классиком марксизма "Империализм как высшая стадия капитализма", в которой автор утверждает: "Империализм — это загнивающий, умирающий капитализм". Но вот "солидарна" ли с этим рассуждением реальная жизнь? Думаю, ответ ясен даже Богодяжу, только он не признается в этом.

Безработные американцы, живущие при "умирающем капитализме", получают пособие по безработице, намного превышающее среднемесячную зарплату жителя Беларуси. Какова же тогда зарплата работающих американцев? "Погнить" бы в таком обществе нашему народу некоторое время! Но для этого нужно строить не "рыночный социализм" по декретам и указам, а общество, подчиняющееся экономическим законам. Штрафами и страхом перед наказанием экономику не вывести из кризиса, ее можно окончательно "запустить", что и делается сейчас, причем очень успешно.

У приглашенного на одну из радиопередач профессора звучала явная ностальгия по прошлому, когда он за государственный счет мог побывать в странах Африки и Европы, выступая с лекциями перед различными аудиториями. Он поделился впечатлениями от картины, увиденной в Италии: за несвоевременное внесение квартплаты была выселена одна семья из квартиры прямо на улицу... Конечно, можно только посочувствовать этим людям: в трудном положении они оказались. Но дело все в том, что нас десятилетиями приучали сочувствовать тем, кто живет в другой стране, причем, по утверждению пропаганды, живет плохо. При этом сознательно умалчивалось, что в нашем "великом и могучем" Союзе жили еще хуже и бесправнее, что выселяли у нас на улицу не за неуплату, а просто потому, что, например, в молодежном общежитии "не положено" было жить молодым людям, образовавшим семью. А надежд на квартиру — никаких.

Такое выселение происходило, к примеру, в 80-х годах из общежития Минской ТЭЦ-4 по ул.Ольшевского, 13. Комиссия во главе с заместителем директора станции и секретарем партийной организации, впоследствии пользовавшимся услугами медвытрезвителя, делала все для того, чтобы воспрепятствовать проживанию молодых семей, в том числе и с маленькими детьми, в этом здании. Хочется спросить уважаемого профессора: почему же этих людей тогда никто не защищал? А это был не единичный случай. Вся государственная политика была направлена на то, чтобы держать в узде и страхе население страны.

...Когда речь заходит о положении в России, принимающие участие в передаче "Позиция" говорят о таких фактах, как невыплата зарплаты и пенсий, военные конфликты, убийства, коррупция в государственных учреждениях и тому подобное. Все это, конечно, соответствует российской действительности, достаточно посмотреть телевизионные передачи российских каналов. Но тогда логичен вопрос: зачем же Беларуси объединяться с такой Россией? Не лучше ли больше внимания уделять своей стране, чтобы ее трудолюбивый многострадальный народ зажил такой жизнью, какую он заслужил давным-давно?

В одной из сентябрьских передач "Позиции" принимал участие господин (или товарищ) Школьников, который обвинял в международной изоляции Беларуси (слава Богу, что власти уже соглашаются с термином "международная изоляция" по отношению к нашему государству), но обвиняют совсем не того, кто действительно повинен в этом. А повинен в изоляции Беларуси не кто иной, как сам "всенародно избранный" президент.

Вот такая оригинальная передача. Мне кажется, что у нее действительно нет будущего и ее ждет такая же судьба, как в свое время и передачу Юрия Ермолюка "Для верующих и неверующих". Ибо позиция "Позиции" — ввести в заблуждение своих слушателей.

**Вячеслав КОВАЛЕВ.**

*Минск.*

Хто — каго?

# Прэзідэнт і ўрад баяцца дыялога

Згодна з указам прэзідэнта А.Лукашэнкі, 7 лістапада адзначалася як свята. Але гэта не спыніла старшыню Нацыянальнага выканаўчага камітэта (НВК) Беларусі Генадзя Карпенку ў яго паездках па краіне. Суботні дзень ён правёў у сустрэчах з насельніцтвам Рэчыцы і Рагачова. Жыхары гэтых гарадоў скардзіліся на цяжкае жыццё, пыталіся пра бліжэйшыя перспектывы, цікавіліся адносінамі апазіцыі да правядзення выбараў...

Па словах прысутных, у насельніцтва Беларусі вялікі рэзананс выклікаў адкрыты ліст, які напісаў Генадзь Карпенка ад імя Нацыянальнага выканаўчага камітэта прэзідэнту Лукашэнку. "Народную волю" з гэтым лістом людзі перадаюць з рук у рукі, жвава абмяркоўваюць, спрачаюцца... І толькі прэзідэнт і ўрад маўчаць.

Як стала вядома старшыні Нацыянальнага выканаўчага камітэта, аддадзены неафіцыйны загад, каб усе вышэйшыя чыноўнікі ні ў якім выпадку не ўступалі ў дыскусію з кіраўніцтвам Нацыянальнага выканаўчага камітэта. Мабыць, таму, што, па-першае, няма чаго адказаць крытыкам, а па-другое, падобна на тое, што кіраўніцтва Беларусі проста баіцца ўступаць у дыскусію альбо робіць выгляд, што ніякага Нацыянальнага выканаўчага камітэта няма, а яго праграмы па выхадзе краіны з крызіснага становішча ўвогуле не існуе.

**Уладзімір КОТ.**

Пазіцыя

# Ужо не прывід лунае, а рэальны фашызм наступае

Мяне моцна кранула паведамленне ў "Народнай волі" аб бандыцкім нападзе на пісьменніка і палітычнага дзеяча спадара Артура Вольскага. Дык хто ж яны, гэтыя юнакі-бандыты? І ці будуць яны знойдзены і пакараны? Адразу магу сказаць, што не.

І вось чаму. Гэтыя юнакі-бандыты — нашчадкі-парасткі тых, хто восемдзесят гадоў таму патапіў у крыві Беларускую Народную Рэспубліку. Гэта нашчадкі-парасткі тых, хто ў 30—50-я гады руйнаваў сялянскія сядзібы, заганяючы хлебаробаў у калгасы-гулагі. Гэта нашчадкі-парасткі тых, хто расстрэльваў бязвінных людзей у Курапатах. Гэта дзеці тых, хто сёння з партрэтамі Сталіна выходзіць на вуліцы. Гэта дзеці тых, хто сёння ўслаўляе германскі парадак часоў Гітлера. Гэта дзеці тых, хто сёння гвалтуе нашу мову, хто нішчыць нацыянальныя святыні, хто гандлюе нашай Бацькаўшчынай.

Чалавек, які любіць матчыну мову, сваю Бацькаўшчыну, шануе сваіх продкаў, ніколі не падыме руку на любога другога чалавека і тым больш сталага.

Толькі выродкі, выхаваныя на антыбеларускай ідэалогіі, здольныя на самыя неверагодныя злачынствы. Як кажуць, розных адценняў "прафесары" Залескія не дарэмна хлеб ядуць, вынікі іх працы вунь якія...

Шаноўны спадар Вольскі! Я са сваімі сябрамі ад шчырага сэрца жадаем Вам хутчэйшай папраўкі і моцнага здароўя! Усе сумленныя людзі з Вамі!

Фашызм не павінен прайсці!
Жыве Беларусь!
З павагай

**Мікола КАНАХОВІЧ, жыхар г.Пружаны.**

Стоп-кадр




У Гомелі адбыўся III міжнародны маладзёжны фестываль музыкі і фальклору "Арт-Сесія-98", у якім прымалі ўдзел калектывы з Германіі, Расіі, Украіны, Індыі, Шатландыі, Францыі і Беларусі. Канцэрты прайшлі не толькі на сцэнах абласнога цэнтра, але і ў Жлобіне, Добрушы, Мазыры, Ветцы, іншых гарадах Гомельшчыны.

**На здымку:** *студэнтка Гомельскага дзяржуніверсітэта, салістка калектыва "Радзімічы" Таццяна Пастух дастойна прадстаўляе на фестывалі родную Беларусь.*

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТа.**

# Як адгукнецца Ярмошын на прапанову сацыял-дэмакратаў?

Кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная грамада) Мікалай Статкевіч звярнуўся з пісьмом да старшыні Мінскага гарвыканкама Уладзіміра Ярмошына. У ім ён просіць дазволу на правядзенне дэманстрацыі і мітынгу з нагоды гадавіны рэферэндуму 24 лістапада 1996 года. Сацыял-дэмакраты хочуць сабрацца на пляцы Якуба Коласа і з 17 гадзін рушыць па праспекце Скарыны да Кастрычніцкай плошчы, на якой у 18.00 пачаць мітынг. Мэта акцыі — падтрымка прынцыпаў дэмакратыі, абарона сацыяльных правоў чалавека.

Ці падтрымае сацыял-дэмакратаў Мінскі гарвыканкам? Аб гэтым мы паведамім чытачам "Народнай волі".

**Алесь ДРАБЧУК.**

Сітуацыя

# Радзільны дом "паплыў"

Дадатковыя клопаты для бацькоў юных аршанцаў зусім неспадзявана паўсталі ў гэтыя дні пасля закрыцця гарадскога радзільнага дома. Цяпер ім прыходзіцца забіраць дадому сваіх немаўлят з суседняга Дуброўна, куды тэрмінова перавезлі жанчын-парадзіх. Пасля аварыі на каналізацыйным калектары падвальныя памяшканні раддома запоўніліся небяспечнымі сцёкамі, і непрыемны пах проста паралізаваў работу медустановы. Пасля заканчэння работ па дэзінфекцыі тут спадзяюцца аднавіць дзейнасць раддома, але праблемы з аховай здароўя ў Оршы гэтым не вычэрпваюцца.

Гэтая аварыя лішні раз пацвердзіла ўсю іх вастрыню. Справа ў тым, што 70 працэнтаў медустаноў, у ліку якіх супрацьсухотны дыспансер, будынкі "хуткай дапамогі", станцыі пералівання крыві, скурвендыспансера і іншыя размешчаны ў старых, прыстасаваных памяшканнях даваеннай пабудовы, а то проста драўляных бараках. Адна з дзіцячых малочных кухань 13 гадоў месціцца ў памяшканні былой прыбіральні, некаторых дзетак прыходзіцца вазіць на абследаванні ў Віцебск, бо няма свайго ўрача-алерголага. І як у іншых месцах, праблемы з сучасным медабсталяваннем, лякарствамі пры адчувальным недахопе сродкаў. Спадзявацца, што ў будучым нешта зменіцца ў лепшы бок, не прыходзіцца, бо вялікія нядоімкі перад бюджэтам маюць шэраг аршанскіх прадпрыемстваў.

**Уладзімір ШЫК.**

Чулі?

# І ў Пінску з'явіліся аматары графіці

Раніцай пасля кастрычніцкіх свят пінчукі, якія выйшлі на вуліцу, маглі бачыць шматлікія графіці на сценах гарадскіх будынкаў.

Напрыклад, на будынку рэдакцыі газеты "Пінскі веснік" было напісана "Халуі...", каля ўвахода на калгасны рынак — "Валютчыкам — свабоду, далоў...". Каля гарвыканкама невядомыя прарыфмавалі таксама прозвішча старшыні выканкама В.Шуста: "Шуст — дуст". І зусім ужо нетрадыцыйны надпіс, прымеркаваны, напэўна, да ўгодкаў кастрычніцкага перавароту — "7 ноября — поцелуй упыря", — аматары графіці пакінулі на адным з жылых дамоў.

Мабыць, адсутнасць магчымасці выказваць свае думкі якімі-небудзь іншымі сродкамі прымушае апазіцыйна настроеных пінчукоў выкарыстоўваць сцены дамоў ды платы.

**Аляксей ДЗІКАВІЦКІ.**

О тех, кто в неволе

# "Своей высшей жизнью я живу с тобой..."

Такую фразу написал по-немецки Андрей Климов своей жене Татьяне в письме из следственного изолятора. Находясь за решеткой с февраля месяца, Андрей не опустил руки и не сломался психологически. Наоборот, он учит немецкий язык, совершенствуется в экономике и шахматах. Еще в прошлом году он брал уроки немецкого языка у хорошего преподавателя. Делал некоторые успехи, даже старшая дочь похвалила за произношение. Сейчас попросил жену принести в изолятор словари, учебники, детектив на немецком языке и журнал "Шпигель". Татьяна уверена в Андрее, в его силе воли. Этот природный дар мужа, унаследованный им от матери, помогает ему достигать поставленных целей.

Соседи по камере как-то странно реагируют на страсть Андрея к языкам, экономике и шахматам. Ему все внушают: мол, как ты можешь учить немецкий, чертить таблицы и график Лаффера, если над тобой висит такая статья? Может быть, не понимают, что только дело спасает Андрея от "крепких объятий" власти. Скорее всего, не сумевшая ничего "накопать" за десять месяцев власть пытается сломать непокорного Андрея. Не каждый человек способен выдержать многомесячное заточение в камере, где жалюзи "ресничка" не пропускают ни света, ни воздуха, где круглые сутки горит тусклая лампочка под потолком. Именно из-за недостатка воздуха в течение длительного времени провоцируются многие болезни, в том числе эпилепсия. Так, в прошлом году в результате эпилептического припадка умер один заключенный. На стук сокамерников дверь никто не открыл, и человека не стало.

Андрею нелегко за жалюзи "ресничка", он, понятно, здоровьем не блещет, семь месяцев к нему не пускали детей. Но его жена, дети, мама и друзья своей высшей жизнью живут с ним.

**Людмила ГРЯЗНОВА.**

